# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 20 (1212) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 20 МАЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.


**КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК**

## Ваські

Розныя ў мінулым былі залежнасці: раз пракладка важнага і рухлівага гасцінца давала пачатак цэламу ланцугу вёсак і мястэчак, другі — звычайная крутлявая ды выбоістая дарога паміж параскіданымі ў бязладдзі паселішчамі з-за тых ці іншых палітычных або гаспадарчых прычын вырастала да рангу важнага міжнароднага тракта. Як было з Васькамі, што ў Нараўскай гміне, сёння цяжка сказаць, адно толькі пэўнае: яны знаходзяцца на старадаўнім шляху з Нарвы ў Нараўку — адрэзку або бакавым адгалінаванні Вялікай Дарогі з Каралеўства Польскага ў Вялікае княства Літоўскае.

Нейкае слабенькае адгалоссе гэтай сувязі захавалася ў назвах частак Васькоў: самі васькаўцы заходнюю завуць „ганчары“, а ўсходнюю — „шляхта“. Калі першая паказвае на тое, што яе насялялі калісьці прыгонныя, дадатковым абавязкам якіх было пастаўляць у княжацкі горад або ў панскі маёнтак розны посуд, і яе паўстанне можна аднесці да XV-XVI стагоддзяў, то другая аказваецца слядом пасялення тут, магчыма, яшчэ вялікім князем літоўскім Вітаўтам (жыў у гадах 1350-1430), некалькіх двароў **баяраў путных.** Баяры путныя былі абавязаны ахоўваць даверany ім кавалак важнага для дзяржавы шляху ад разбойнікаў і грабяжу, **наладжваць на ім хуткі і спраўны праезд** князя і яго двара, **выконваць абавязкі пасыльных і г.д. За гэтыя паслугі** кн[illegible] надзяляў іх зямлёй і **звальняў ад розных данінаў** і іншых павіннасцей.

Ці тут, на **правым беразе рэчкі** Крыўчык, баяры путныя былі **„пасаджаны“** на „сырым корані“, гэта значыць, на выдзеленым кавалку спрадвечнай пушчы, якую трэба было яшчэ выпаліць ды выкарчаваць на прыгоднае дляворы-

**(Працяг на стар. 2)**



*Напрадвесні ў Васьках хоць і шэра, але ўтульна.*

**ШЛЯХАМ ГАДОЎ**

—Раней мы жылі на хутары, тут недалёка ад вёскі. Поле, лес. Памятаю, якраз канчалася лета. На полі яшчэ была бульба, чакала касы атава. Але ўжо касіць мне не давялося. Вайна...

Мікіту Аўсейчуку семдзесят сем год, з якіх дзесяць прайшло ў салдацкім мундзіры. У 1925-1926 г.г. служба ў Кракаве, у 1939-1947 паклікала вайна. Прызвалі 5 жніўня трыццаць дзевятага.

У Савецкім Саюзе фарміравалася армія. Пачаткова назначылі ў пяхоту, потым у Віленскі полк лёгкай артылерыі. Саратаўская вобласць, потым праз Каспійскае мора ў Іран.




— У Іране былі мы ўсяго некалькі тыдняў і пераехалі ў Ірак. О, і там ужо затрымаліся даўжэй. Прайшлі новае абучэнне, а адначасова пільнавалі нафтаперагонныя заводы. Там былі, бадай, год.

Потым чатыры-пяць месяцаў у Пакістане, далей пераехалі ў Ліван, адкуль, правёўшы манеўры, прыбылі ў Егіпет. У Егіпце былі ўжо нядоўга. Павезлі проста ў Італію, на фронт. Затрымаліся ў мястэчку Чэрляна. Быў 1944 год.

— Мы былі ўжо змучаны гэтым падарожжам. Да гэтага яшчэ дакучала гарачыня. Прапацелая вопратка. І ў Чэрляна распачалі якраз мыццё, а тут загад збірацца.

Прыехалі ноччу. Мясцовасць, як і іншыя. Ціха. Толькі прастрочыць аўтамат ці гармата. Дзе яны? Монтэ-Касіна. Трэба было падрыхтаваць акопы, распланаваць, дзе будуць стаяць гарматы.

— А немцам усё відаць з гары. Бо было так — з абодвух бакоў горы, а сярэдзінай плыла рэчка Рапіда і на яе беразе — дарога. З аднаго боку высокая гара Монтэ-Кайро і далей прырэчную даліну перагароджвалі горы. І вось у гэтым горным ланцугу, на самым канцы Монтэ-Касіна.

Працавалі толькі ноччу, часамі раніцай, але і то пад створанай сапёрамі дымнай завесай. Немцы на гары ў манастыры. Відаць кожны рух. Адзінай натуральнай заслонай быў аліўкавы гай і рэдкі вінаграднік. Трэба было скрываць за сабой кожны найменшы след. Капалі і прыкрывалі дзярнінаю. Немцы не маглі нічога западозрыць. І

Працяг на стар.4



**З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК**

Калі вясна бушуе, сялян цягне ў поле, каб паглядзець, як расце збожжа, як заквітнела сенажаць, каб паслухаць, як спяваюць птушкі, каб надыхацца пахам свежазааранай зямлі.

І я не змог высядзець у гарадскіх клетках для людзей. Толькі менш мяне цікавілі гэтыя вонкавыя праявы веснавога адраджэння жыцця. Хацелася заглянуць глыбей, каб уловіць прыкметы гэтых пераўтварэнняў, якія выводзяць нашу вёску на шырокі гасцінец сучаснасці.

*

І першае ўражанне: у краяглядзе сялянскіх палёў усё больш і больш паявілася фальговых тунеляў для вырошчвання ранняй агародніны. Характэрныя сярэбраныя буды, даўжынёю ў дзесяткі метраў, зіхацяць у сонцы адразу ж за межамі Беластока і бадай няма цяпер такой вёскі, дзе б хаця адзін гаспадар не вырошчваў гуркоў або памідораў пад фальгой.

Я на гэты раз спыніўся найперш у Рыбалах. Вёска велізарная, хаця апусцелая, у большасці перасялілася ў Беласток і іншыя гарады. Аднак Аляксандр Нікалаюк астаўся на сваёй невялікай, ледзь чатырохгектаровай гаспадарцы. Застаў я яго пры пасадцы гуркоў пад фальгой.

— Я ўжо трэці год гэтым займаюся, — інфармуе гаспадар. — Трэба ж неяк камбінаваць, каб здабыць той грош.

Толькі такога **„камбінавання“** пажадаў бы я ўсім сялянам. Нікалаюк проста падпісаў з агародніцкай спулдзельняй доўгатэрміновую ўмову на вырошчванне гуркоў. Спулдзельня даставіла фальгу, суседзі дапамаглі нацягнуць яе на рыштаванне, а жонка загадзя падумала аб падрыхтоўцы расады. Нікалаюкі кантрактуюць таксама трускалкі і іншую агародніну.




— Сенажаці ў мяне мала, ледзь паўгектара. Столькі ж і пасбішча. Значыць, жывёлагадоўляй я займацца не магу і таму спецыялізуюся ў вырошчванні агародніны.

І гэта добра. **Спецыялізацыя — цяпер аснова поспехаў у сельскай гаспадарцы.** А ў Рыбалах не адзін Аляксандр Нікалаюк займаецца агароднінай. Фальговыя тунелі густа тут расселіся па загуменнях і па палях.

І добра было б, каб знайшоўся яшчэ нейкі адважны чалавек, які запрапанаваў бы сваім суседзям спалучыць іх сілы ды заснаваць у Рыбалах хаця адну сялянскую суполку па вырошчванню агародніны. Для такіх суполак (аб чым і я ўжо неаднойчы пісаў) дзяржава стварае вельмі спрыяльныя ўмовы дзейнасці, а патрабуе ад іх толькі аднаго: **высокай сельскагаспадарчай вытворчасці.**

*

У Дубічах Асочных жывуць 64 гаспадары. Сярод іх сучасным выглядам выдзяляецца сяліба **Цімафея Александрука.** Дом, абора, клуня — усё мураванае, прасторнае, новае. Панадворак запоўнены рознымі машынамі, сярод якіх выдзяляюцца **аўтамабіль** „Вартбург“ і **трактар** „Урсус“.

— У мяне, — кажа гаспадар, — няма толькі камбайна тыпу „Бізон“. Цяжка было б мне справіцца без машын з апрацоўкай маёй гаспадаркі. У мяне аж 32 гектары зямлі.

Александрук, як многія іншыя, доўгі час шукаў шчасця ў горадзе. Жыў і працаваў у Гайнаўцы, у спулдзельні „Чын“. У 1967 годзе рашыў вярнуцца на бацькоўскую гаспадарку.

— Давялося пачынаць ад асноў. Набраў пазыкі і пачаў будаваць хату, абору і клуню. Усё адначасова. Цяжка, вельмі цяжка было. Працаваў, як вол. Ад світання да цямна. Яшчэ цяпер хрыбет баліць ад цягання цэменту і цэглы. Мусіць, падарваўся...

Аднак Александрук паставіў на сваім, даказаў, што і на вёсцы, калі хто не гультайнічае, можа дабіцца багацця. Цяпер у яго прасторнай аборы стаіць 11 дойных кароў і 16 апасаў, вар-

Працяг на стар.4

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПАШПАРТЫ РЭК

Інстытут Саюзгіпрамеліявадгас пачаў складанне водагаспадарчых пашпартоў рэк. Ужо заведзены такія дакументы на палескія рэкі Ясельду, Лань і Случ. Гэта дазволіць удасканаліць планаванне, праектаванне і аператыўнае кіраванне воднай гаспадаркай.

На чарзе складанне пашпартоў для рэк Пціч, Славечна, Піна, Бобрык і Прыпяць.

### БЕЛАРУСКАЕ РУНО

Авечкагадоўля — галіна выгадная і перспектыўная ва ўмовах Беларусі. Гэта на практыцы даказалі жывёлаводы саўгаса „Станькаўскі“ Рагачоўскага раёна.

Тры гады назад тут пабудавалі буйнейшы ў рэспубліцы комплекс для ўтрымання 5,4 тысячы танкарунных авечак. Акрамя таго, чатыры тысячы жывёлін утрымліваюцца летам на адкормачных пляцоўках. Такая канцэнтрацыя дазволіла гаспадарцы павялічыць летась настрыг воўны ў паўтара раза.

Сёння Станькаўскае міжгаспадарчае прадпрыемства дае дзесятую частку ўсёй воўны, што атрымліваюць у вобласці, а таксама вялікую колькасць бараніны.

### ПРАДУКЦЫЯ З МАГІЛЁВА — НА ЭКСПАРТ

Францыя, Італія, ФРГ — далёка не поўны пералік краін, куды пастаўляюцца магілёўскія электрарухавікі. На экспарт ідуць таксама аўтаскрэперы, пасажырскія ліфты і іншыя машыны. Звыш 50 замежных краін купляюць вырабы з магілёўскай маркай.

Значна павялічыцца за апошнія гады выпуск прадукцыі на ўсіх машынабудаўнічых заводах горада. Летась у Магілёве асвоены выпуск 20 новых найбольш дасканалых відаў машын, абсталявання, апаратуры, прыбораў і матэрыялаў.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**180 гадоў назад**

20.5.1799 нар. А. Бальзак, французскі пісьменнік, выдатны прадстаўнік крытычнага рэалізму.

**135 гадоў назад**

24.5.1844 С. Морзе перадаў першую ў гісторыі тэлеграму (з Вашынгтона ў Балтымор).

**75 гадоў назад**

21.5.1904 у Парыжы зацверджаны Міжнародны футбольны саюз (ФІФА).

24.5.1904 нар. А. Русак, беларускі паэт. Многія вершы Р. сталі шырока вядомымі песнямі: „Бывайце здаровы“, „Бульба“, „Лясная песня“, „Толькі з табою“, „Не шукай“ і інш.

* * * * * * * * * *

*22.5.1909 пецярбургская „Ніва“ пісала, што „4 мая ў дзяржаўнай думе закончыліся спрэчкі па бюджэту мініства нар. асв. У гэты дзень спрэчкі датычылі толькі становішча нар. асветы ў Паўночна-Заходнім краі і прыбалтыйскіх губернях, абмежаваняў у галіне асветы для яўрэяў і „іншародніцкага засілля“ ў Польшчы, Паўночна-Заходнім краі і остзейскіх правінцыях“.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 140**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. **Prenumeratę ze zleceniem wysyłki** za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 969. Nakład 7600 egz. S-2





**З Беларусі.** На мінскім радыёзаводзе пачаўся выпуск новых каляровых тэлевізараў „Гарызонт-728“. Фота Яўгена Казюлі.

(Працяг са стар. 1)




ва „ляда“, ці на гатовых сельскагаспадарчых угоддзях — астаецца толькі здагадвацца. Блізасць да мясцовасці з надта ж таямнічай назвай „Гарадзіска“ хутчэй за ўсё гаворыць пра тое, што яны „селі“ на „пустцы“, якая тут паўстала пасля вайны ці пошасці. Ці гэта былі палеткі нейкага сяла, пасля якога асталася назва ўрочышча Старыя Ваські? І гэтае пытанне астанецца без адказу.

Адно толькі пэўнае — Лядская пушча на многія стагоддзі маладзейшая ад пасялення тут людзей і іхняй вельмі актыўнай дзейнасці. Імена ў пушчанскім урочышчы „Сэрэдне“ яшчэ перад другой сусветнай вайной польскія археолагі даследавалі вялікі могільнік-курган, які паўстаў недзе паміж II і V стагоддзямі нашай эры. Зрэшты, нават сённяшнія назвы ўрочышчаў у той частцы пушчы, што найбліжэй да Васькоў, пра многае могуць сказаць: Баб'я Гара, Выжарчык, Гатка, Гаціска, Гаць, Козя Горка, Несцярыха, Папоўшчына, Ракалупы, Седліска, Стасёў Кут, Улітка, Шахова Гатка, большасць з іх сведчыць пра чалавечую дзейнасць. Разам з тым гэтыя назвы сваім характарам і зместам мала чым розняцца ад назваў палёў і лугоў, на якіх гаспадараць вёска: Алёс, Асавікі, Балота, Блізніцы, Дубіннік, Жорала, Замлін, Лугі, Пудбагно, Пудброварак, Пудлесе, Пенькі, Расошэ. Так, Ваські спакон веку жылі ў згодзе з пушчай, з прыродай. Хоць раз больш актыўнымі былі людзі, а іншы — пушча, усё ж раўнавага паміж імі захоўвалася.

І не магло быць інакш, бо цэлыя стагоддзі самым пэўным сябрам простага чалавека быў лес: з дрэва беларус-селянін рабіў усё: хату, прылады працы, посуд, а ў пушчанскіх чашчобах хаваўся ад ворагаў. Як памяць людская сягае, васькоўцы аніяк не маглі пражыць са сваіх пясчаных загонаў, заўсёды падпіраліся працай у Лядскай або Белавежскай пушчы: секлі і вывозілі драўніну, даглядалі і расчышчалі маладнякі, вырошчвалі расаду, садзілі новыя кварталы лесу. Таму і адносяцца яны да навакольнай пушчы па-свойму, неяк асабліва, быццам да вырошчанага ўласнымі рукамі дзіўнага саду. Для старэйшага пакалення яна была месцам сходаў яшчэ Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, тутэйшага гуртка Грамады, месцам настойлівых забастовак лесарубаў і возчыкаў, словам, маўклівым сведкам іх гарачай маладосці. Сярэдняе пакаленне васькоўцаў носіць у памяці сустрэчы з савецкімі партызанамі, якія тут, непадалёку ад Васькоў, у 21 квартале, у глухім месцы, на ўзгорку, акружаным багнамі, збудавалі зямлянкі, часта наведваліся ў сяло. Недзе ў 1942-43 г.г. на васькоўскім полі наступіла сутычка двух партызанаў-разведчыкаў з групай гітлераўцаў, адзін з партызанаў загінуў у гэтым няроўным баі. Для маладога пакалення пушча — гэта карта адлеглай гісторыі, крывавай і бяздушнай. Яно штогод ускладае вянкі і вязанкі кветак на брацкай магіле, што знаходзіцца на пушчанскай ускраіне. Фашысты, адразу пасля свайго прыходу сюды ў 1941 годзе, па даносу двух здраднікаў з мястэчка Нарвы, арыштавалі самых актыўных палітычных і грамадскіх дзеячоў пры Савецкай уладзе з усяго нараўскага сельсавета і расстралялі іх. У магілу лёг 41 чалавек. Апрача гэтага, фашысты расстралялі былых савецкіх актывістаў на Кургане над ракою Нарваю і ў іншых месцах. З Васькоў загінулі: старшыня сельсавета Рыгор Вяйкоўскі і актывіст Уладзімір Крантоўскі.

Вызваленне ў 1944 годзе як на ўсёй Беласточчыне, так і тут яшчэ нейкі час не абазначала поўнага спакою — у пушчы знайшлі прыстанішча банды рэакцыйнага падполля. Яны грабілі сялян, забівалі актывістаў, здзекаваліся над людзьмі. Толькі калі ў 1945 годзе працаўнікі грамадзянскай бяспекі і салдаты Войска Польскага адну з такіх банд ліквідавалі каля Баравіска, жыццё тутэйшых сёлаў увайшло ў нармальнае, мірнае русла.

Пасляваенная гісторыя Васькоў не менш цікавая і багатая, чым ранейшыя часы. Традыцыі даваеннага прагрэсіўнага руху знайшлі ў іх вельмі ахвярных прадаўжальнікаў і адданых справе дзеячоў. Паўстаў тут сельскагаспадарчы кааператыў. Перамог ён усе цяжкасці і сёння належыць да ліку самых лепшых на Беласточчыне калектыўных гаспадарак. Яго дзейнасць, асабліва дасягненні ў гадоўлі, варты спецыяльнага артыкула. З ім ахвотна і з надта ж добрымі вынікамі супрацоўнічае ўсё сяло. І так, спецыялізацыйныя карты па гадоўлі парасят у супрацоўніцтве з кааператывам маюць Якуб Вяйкоўскі, Міхал Андрасюк, Валянцін Кананюк, рыхтуюцца да здабыцця такіх картаў па малочнаму быдлу Аляксандр Астапчук, Сяргей Снарскі. Якуб Вяйкоўскі, які ўжо 17 год з'яўляецца солтысам Васькоў, нядаўна закончыў пабудову свінарніка коштам 400 тысяч злотых на 10 мацёраў. У мінулым годзе ён прадаў кааператыву каля 60 парасят. У 1980 годзе гэтую колькасць ён збіраецца падвоіць.

Ваські маюць добрыя традыцыі і ў асвеце, адсюль паходзяць інжынеры: Георгій Кананюк, Ларыса Куніцкая, Грыгорый Каўнер, аграном Ян Каўнер, эканаміст Валянціна Кананюк, афіцэр Ян Снарскі і іншыя, многа моладзі вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах.

Што ж, даўняе сяло на даўнім гасцінцы жыве па-новаму, хоць нават у багацці прозвішчаў сваіх жыхароў — Андрасюк, Астапчук, Банькоўскі, Вяйкоўскі, Герасімюк, Граматовіч, Грыгарук, Дзем'янюк, Дубіч, Жухоўскі, Іванюк, Кананюк, Келбашэўскі, Красноўскі, Куніцкі, Манах, Паскробка, Садоўскі, Свентахоўскі, Снарскі, Федарук, Хадакоўскі, Харкевіч, Янюк — захавала яно факты гісторыі з некалькіх стагоддзяў.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Яна ім за маці ● У службе зямлі ● Драмгуртко бельскага белліцэя ● Вясельныя пажаданні ● Гарадчанкі юбілейнічаюць ● На спартыўнай ніве ● Іхнагеалагічныя эцюды ● Дух яцвяжы дзядзькі Кваса ● Весткі з Гайнаўкі, Міхалова, Боцькаў, Крынак, Кур'ян, Сакоў, Бельска, Іванкаў, Нараўкі, Чаромхі ● Калі сніцца белы конь ● Доктар Знахарук ● Ракі з гакам ● Песня „Надежда“.**




**Sobota 19 V** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 12.45 TTR. Up. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 14.20 Pr. dnia. 14.25 Radzimy rolnikom. 14.35 Obiektyw. 14.55 Dziennik. 15.05 Pan półka i spółka. 15.25 Latarnia czarnoksięska — 16.05 Kacza zupa — film USA. 17.15. Pr. publ. 17.40 Szanujmy wspomnienia. 18.30 Na ligowych stadionach. 19.00 Przygody Bolka i Lolka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Na scenie życia. 21.30 Relacja z meczu w piłce nożnej ZSRR—Węgry. 22.20 Dziennik. 22.35 Energomontaż — Zachód jubilatem.

**Niedziela 20 V** — 6.15 TTR. Upr. rośl. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Nasze spot. 7.35 Alarm przeciwpożar. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Z kamerą wśród zwierząt. 11.10 Wyścig Pokoju. 12.30 Dziennik. 12.45 Rolnicze rozmowy. 13.15 Z muzyką przez lata. 13.45 Jarzębina czerwona — film pol. 15.50 Los. Dużego Lot. 16.00 Komedia omyłek — teletur. 16.45 Koncert życzeń. 17.15 Tele-Echo. 18.15 Rewia gwiazd. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Doktor Murek — ser. TP. 21.45 Przeboje mistrzów. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 21 V** — 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 17.00 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.25 Wyścig Pokoju. 18.20 Córeczka — film TP. 18.45 O! Tego już za wiele — film pol. 19.00 Wodnik Szuwarek. 19.10 Siódemka 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. A. de Musset: Nie igra się z miłością. 21.55 Śledztwo zostało wznowione. 22.25 Dziennik. 22.40 Sport.

**Wtorek 22 V** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III Czerwone. żółte, ziel. 12.55 Dla szkół śred. Rodzina współcz. 13.25 TTR. Mat. 14.00 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Klub Seniora. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Studio Mł. 16.30 Dzień dobry w kręgu rodziny 16.55 Interstudio. 17.20 10 minut — teletur. 17.30 Wyścig Pokoju. 18.05 Sonda. 18.35 Święto — film pol. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Świnka skarbonka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ja Klaudiusz — odc. VII ser. 21.20 Sport. 23.05 Dziennik.

**Środa 23 V** — 6.00 TTR Mat. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Dla kl. V Hist. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.45 TTR. Chem. 13.25 Wskaz. met. 15.00 Pr. dnia. 15.05 NURT — naucz. pocz. 15.35 Obiektyw. 15.55 Dziennik. 16.05 Skakanka. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.20 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.45 Dom i my. 18.00 Los. Małego Lot. 18.10 Klinika zdrowego człowieka. 18.35 Śródziemnomorskie przygody — film dok. 19.00 Cypisek, syn rozbójnika Rumcajsa. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Pani do mnie pisała — film radz. 22.05 Sport. 22.35 Dziennik. 22.50 Rozmowy o pięknie.

**Czwartek 24 V** — 6.00 TTR. Chem. 6.30 Wskaz. met. 8.10 Dla kl. VII Zool. 11.05 Dla kl. VIII J. pol. 13.25 TTR. J. pol. 14.00 Fiz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Co dalej maturzysto? 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 Czwartek TDC. 16.50 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.15 Skarbiec. 17.40 Wyścig Pokoju. 18.25 Rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 O świcie. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Columbo — ser. USA. 21.50 Pegaz. 22.35 Kartki z 35-lecia. 23.05 Dziennik. 23.20 Sport.

**Piątek 25 V** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Fiz. 8.10 Dla kl. VII. Geogr. 9.00 Dla kl. V Geogr. 11.05 Dla kl. I—II Międzynar. spotk. 12.00 Dla kl. VIII. Geogr. 12.45 TTR. J. pol. 13.25 Mat. 15.15 Red. szk. zap. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — nauki polit. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Magazyn motor. 17.50 Z życia wzięte — ser. CSRS. 19.00 Kocie figle. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wieczór teleturniejów. 22.05 Camerata. 22.30 Dziennik. 22.45 Świat, Ludzie, Idee.




**Piątek 18 V** — 8.00 Liryka M. Bohdanowicza. 18.20 Film anim. 19.10 Epopeja filmowa „Wielka Ojczyźniana”. Film IV.

**Sobota 19 V** — 8.05 Koncert. 9.15 Wielka Ojczyźniana. Film IV. 16. 00 W świecie zwierząt. 17.45 Cyrk. 18.30 P. nożna. ZSRR—Węgry. 21.35 Mistrz. Europy w gimnastyce.

**Niedziela 20 V** — 10.00 Film fab. 13.00 Spektakl. 15.30 Klub film. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Filmy anim. 18.20 Koncert. 19.20 Film fab. 20.35 Spektakl. 22.35 Pr. muz.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Alicja ucieka po raz ostatni — fr. 22—23. Świat dzikiego zachodu — USA 24—25. Szkolny walc — radz. 26—27.

**Bielsk Podl.** Zabity na śmierć — USA 20—21. Płomienie — pol. 22—23. Mroczny przedmiot pożądania — fr. 24. Salve di Auguste — wł. 26—27.

**Czeremcha** Szarada — pol. 22—23. Wilk grasuje — NRD 26—27.

**Czyże** Fortepian w powietrzu — węg. Mandingo — wł.-USA 23—27.

**Gródek** Pejzaż horyzontalny — pol. 26—27.

**Hajnówka** Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 21—23. Kieszonkowe — fr. 24—25. Bilet powrotny — pol. 26—27.

**Michałowo** Największe wydarzenie od czasów gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 22—23. Po sezonie — ang. 24—25. Niespokojne morze — czes.-radz. 26—27.

**Milejczyce** Chłopiec z burzy — austr. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 23—27.

**Narew** Pejzaż horyzontalny — pol. To moja sprawa szefie — czes. 23—27.

**Narewka** Piknik pod wiszącą skałą — austr. Dzień mej miłości — czes. 23—27.

**Rajsk** Nie wychylać się — jug. Znaki Zodiaku — pol. 23—27.

## Наша галерэя



*Мікалай Грыгарчук. Жывапіс. „Дарога на Полька“. 1961 год.* *Фота М. Гайдука.*

Прыйшоў сюды спакойны, ціхі, нават крыху запалоханы. Вядома, васемнаццацігадовы хлопец, вырасшы сярод ніў і лугоў пад шум Белавежскай пушчы, — і раптам у шматлюднай, мітуслівай жалеза-бетоннай сталіцы. Хваляванне за кожны крок, кожнае слова. Але універсітэцкая штодзённасць, акадэміцкае жыццё з кожным днём прыносілі ўпэўненасць, фарміравалі светапогляд, з кожным днём выціралі па чарзе пачуццё прыніжанасці. Пачаткова быў ён добрым і кемлівым студэнтам. Чацвёркамі значыўся ў заліковай кніжачцы след адбыўшыхся экзаменаў. Нярэдка яго прозвішча паяўлялася сярод той, часта нешматлікай, групы шчаслівых, здаўшых за першым падыходам.

— Мог прысесці на дзень-два перад экзаменам і здаць яго добра. Меў вельмі добрую памяць, быў здольным, — гавораць знаёмыя.

Акадэмік — гэта сукупнасць двух жыццяў. Адно — лекцыі, бібліятэкі, залікі і другое, тое студэнцкае, як у песні — „...Жывуць студэнты весела ад сесіі да сесіі, а сесія два разы ў год...“ Толькі б умела пагадзіць іх з сабой — і тады гэта твой самы шчаслівы ды прыгожы перыяд. Спатыкнуўся.

Усё пачалося недзе на другім курсе. Распачалося ад брыджа, які ператварыўся ў азартныя „ўсяночні“. Пачаткова калі-некалі, потым штораз часцей і перарадзілася ў звычку. Ноч з днём памяняліся месцамі. Днём авалодвала стома, ноч адкрывала прывабныя дзверы ў жыццё. У блакнотах настаўнікаў усё больш ды больш паяўлялася значкоў адсутнасці. Спачатку яшчэ мучыла сумленне. Часамі сядаў за кнігі, заглядаў у бібліятэкі ды папаўняў веды. Здольнасць ды добрая памяць дазвалялі хутка нагнаць страчанае, але звычка штораз радзей дапускала да голасу сумленне. Заахвочванні ды падбадзёрванні з боку рабілі сваё. Ужо нават і экзаменацыйныя сесіі перасталі быць допінгам. Усё часцей ды часцей трэба было перакладаць экзамены, падкладкай да чаго была сімуляцыя хвароб. І зноў пракураны пакой, гай бутэлек, а на залітым ды прапаленым абрусе калода карт і параскіданыя грошы — „банк“, які трэба разбіць, або папоўніць. Стыпендыі хапала ўсяго толькі на некалькі дзён. Трэба было разлічыцца з даўгамі — вынікам пройгрышаў, выкупіць адданае ў залог. Наступала галадоўка. Не было за што купіць абеды. Даводзілася хадзіць у сталовую зараз жа перад яе закрыццём. Часамі штосьці заставалася. Не ўсе прыходзілі. Некаторыя не паспявалі з заняткаў, іншыя выехалі, а калі не — дык трэба было круціць.

— У яго заўсёды было поўна старых нумаркоў. Калі ідзе з талончыкам, дык так і глядзі, што падроблены. Так налаўчыўся, што добра ўглядацца трэба.

## ХАЎТУРНЫ СМЕХ

каб пазнаць, — гаварылі. — Часамі мы прыплюшчвалі на гэта вока, зналі яго становішча.

Дзверы ранейшых сяброў усё часцей былі закрытыя. Хіба што з дому даставаў грошы на касцюм або плашч, якіх і так ніколі не купляў. Ішоў адбіваць пройгрыш, меў толькі адзін пінжак, слабое паліто і пару кашуль, якія безупынна моклі ў ракавіне, адкуль вымаў і сушыў толькі тады, калі былі неабходныя.

Давялося паўтараць курс. Але гэта нічога не змяніла. Усё часцей чуліся водгукі скандалаў. Часамі яго спецыяльна падпускалі, дзеля смеху. Калі надыходзілі хвіліны цвярозасці, неаднакратна станавіўся ў акне і задумоўваўся, углядаючыся, як ходзяць перад акадэмікам пары. І тады змяняўся. Часта заходзіў у суседнія пакоі, сядаў ды пачынаў расказваць. Гаварыў аб тэме сваёй магістэрскай працы, ствараў свет сваёй будучыні. Расказваў пра сваё каханне, створанае ўласнымі марамі, гаварыў аб сваёй дзяўчыне, якая ў рэальнасці ніколі не існавала. Прабаваў вярнуцца да нармальнага жыцця, зраўняцца з іншымі. Але ўвесь гэты летуценны свет лопаў бурбалкай ад жартаў слухаючых. Разляталася, не атрымаўшы аніякага апраўдання і падтрымкі з боку, візія яго будучыні.

Наступіла нервовае расстройства. Яшчэ раз спрабаваў, на гэты раз сілаю, пабудаваць тое, што так лёгка прыходзіла іншым. Але гэта ўжо была хвароба. Распачаліся пагоні па калідорах. Дзяўчаты з крыкам хаваліся ў пакоях. Распачалося ламанне дзвярэй, распальванне вогнішч. Потым усё адступала. Задумоўваўся. Сядаў і пісаў кіраўніку акадэміка лісты, просячы прабачэння. Часамі звяртаўся да сужыхароў за парадамі, але пераважна ператварался гэта ў крыніцу да жартаў і анекдотаў.

Хвароба паглыблялася. Праўда, прыступаў яшчэ да экзаменаў, нават здаваў, пачаў пісаць магістэрскую працу, але нервовы прыпадак даваў знаць аб сабе. Лячэнне. Потым яшчэ раз вярнуўся. Прабаваў закончыць вучобу, але вярнулася і хвароба. Выехаў. У акадэміку заціхла, толькі пад дзікі бесклапотны рогат кружаць па пакоях расказы ды анекдоты. Смяюцца... Смяюцца з таго, як з поўным чамаданам пустых піўных бутэлек уцякаў праз платы ад міліцыі, а то як праіграў у покер за адну ноч касцюм, а то як пабіў габлёту ды выскачыў праз акно з другога паверха, то зноў, як вымаў з папяльнічкі недакуркі і курыў, або як прынёс у акадэмік дзяўчатам цэлую галю з чарэшнямі, смяюцца...

**М. Шаховіч**

## З маёй званіцы

# Дарогу талентам!

Жыццё наша бурліць, усё ў ім безупынна змяняецца, як сказаў старажытны філосаф. Возьмем к прыкладу вучобу, пачатак яе калісь і цяпер. Якія ж тут змены наступілі! Я часценька ў думках прабую параўнаць аб'ём ведаў, з якімі я першы раз пераступіў школьны парог, з ведамі майго і Анфісчынага чада Вяранькі, якая сёлета распачала сваё пабеданоснае шэсце ў навуку. Ці можна паміж гэтымі ведамі паставіць знак роўнасці? У ніякім выпадку.

Я дакладна помню свой першы клас і багаж ведаў, якімі нагружана была мая, на бубен пастрыжаная, галоўка. Багаж гэты быў надта ж скромненькі. Мог, напрыклад, адрозніць каня ад каровы, свінню ад авечкі. Дакладна ведаў таксама, дзе расце салодкая агародніна, у каго найлепшыя яблыкі, а ў каго — грушы, і як і калі іх можна адтуль дастаць, каб не злавілі і не напхалі крапівы ў зрэбныя і абшарпаныя порткі.

Мала, бадай, была разумнейшая ў першым класе і Анфіска. Хаця, па яе словах, была яна заўсёды прымускай, калі нават не вундэркіндам.

Першыя крокі ў навуцы, як і трэба, памагалі ставіць нам нашы бацькі, хаця і самі былі не вялікія грамацеі. А вось наша першакласніца Вярунька і чатырохгадовая Ліза разбіраюцца не толькі ў навуцы, але нават у сучаснай тэхніцы. Паспелі ўжо дэтальна разабраць і радыё, і магнітафон, і тэлевізар, і нават да халадзільніка дабіраюцца. Праўда, паскладаць іх потым не паскладалі, бо і нашто? Чым жа будуць займацца тады электрыкі і зуртаўцы! Дык вось, гэтае разумненькае і прыгожанькае, канешне, дзіця Вярунька распачало навуку. Гэта важная сямейная падзея паставіла на ногі ўсю маю фамілію. Уся фамілія, на чале, канешне, з бабкамі і дзедкамі, рашыла яшчэ перад школай, што Вярунька багата надзелена ўсебаковым талентам. І калі не праваронім мо нешта, то з яе выйдзе, напэўна, вялікі вучоны. Яшчэ не рашылі, у якой галіне, мо нават у некалькіх, і, канешне, артыстка і спявачка з дыяпазонам голасу актаў на пяць адразу. Не ведаю толькі, ці правільна выражаюся. З музычнымі ведамі ў мяне не найлепей, у Анфіскі таксама, хаця яна і мела да гэтага ўсе даныя. Набыць і развіць іх перашкодзіў ёй не хто іншы, як я. Гэтага я дасюль сабе выбачыць не магу, яна мне таксама. І каб не змарнаваць талент Вярунькі, мы і сталі ўсе сцяной, і ўжо чацвёрты месяц як стаім Закупілі ёй адразу ўсё найлепшае, заграні́чнае: і партфель, і пенал, і алоўкі, і фарбы, і мазакі, і многа-многа іншых рэчаў, якіх і назваць ужо не змагу. Зрэшты, і не варта, бадай, называць, бо за гэтыя чатыры месяцы іх амаль ужо не асталося — Вярунька пагубіла на слаўнай навуковай дарозе. Яна, як і ўсе знакамітыя людзі, рассеяная ў нас, і стала проста ў яе правілам, каб кожны дзень штосьці згубіць: то алоўкі, то аўтаручку, то рукавіцы, то партфель. А мы вельмі задаволены, што хаця не футра, хаця ёсць надзея, што і на футра прыйдзе чарга. Толькі не падумайце хаця, што ў Вяруньці звычайная рассеянасць. О, не! Навука псіхалогіяй такую рассеянасць, як у яе, называе прафесарскай рассеянасцю, у адрозненне ад звычайнай, якой надзелены ўсялякія там разявы. У школе на нашай Вяруньцы не пазналіся, не заўважылі таленту. Лічаць яе за нармальную. Школа наша адстае ад жыцця, гэта факт. Мала гэтага, нават тройкі ставяць, вы бачыце?

Толькі і атрымоўвае правільную навуку што дома. Гэтай мэце падпарадкавана ў нас усё. Нават пакоі страцілі сваё ранейшае прызначэнне: спальня стала кафедрай матэматыкі, гасцінны пакой — кафедрай літаратуры, кухня — кафедрай рысавання. Бацькі і дзеды са звычайных людзей ператварыліся ў выкладчыкаў. Прычым захавана спецыялізацыя. Анфіска як найразумнейшы член маёй сям'і выкладае матэматычныя прадметы. Бабкі выкладаюць спеў — яны калісь у царкоўнай пеўчы спявалі. Мне як таму, што жыве толькі на фінціклюшках, даручылі гуманістычныя прадметы. І я стараюся, працую многа, вучу і сам вучуся. Аблажыўся рознымі слоўнікамі, энцыклапедыямі, педагагічнай літаратурай. Вы сабе не

(Працяг на стар 4)

## Весткі з Беластока

### РАСЦЕ ФАБРЫКА ДЫВАНОЎ

На ўскраіне Беластока, па вул. Паўночна-Абвадовай растуць будынкі вялікай фабрыкі дываноў. Тут адзін толькі галоўны прадукцыйны цэх займае плошчу ў 10 гектараў. У ткацкім цэху ідзе мантаж дывановых кросен з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У чэрвені бягучага года фабрыка пачне прадукцыю дываноў тыпу вільтон у прамысловым маштабе.

У 1980 годзе пачне працаваць прадзільны цэх, а крыху пазней фарбярня і выканчальня. Беластоцкая фабрыка будзе прадукаваць 400 тысяч дываноў у год. У ёй будзе працаваць звыш 2 тысяч асоб. Ужо цяпер многія з іх праходзяць падрыхтоўку ў беластоцкай тэкстыльнай школе (тут у 13 класах вучыцца 400 дзяўчат і хлопцаў) і ў цэнтры абучэння ў адным поўнасцю гатовым фабрычным будынку. **(яц)**



**Гарадскія замалёўкі.** *Уязджаючы ў Бельск.* *Фота Я. Целушэцкага.*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXXIV

„Новая зямля" гэта свайго роду аналітычная карціна, у якой знайшлося месца для шырокага паказу многіх галін сельскага побыту. На прыкладзе адной сям'і Колас паказаў жыццё ўсёй сялянскай Беларусі. У сувязі з тым, што ў паэме адлюстраваліся найбольш тыповыя рысы беларускага нацыянальнага характару і побыту, можам смела назваць паэму беларускім эпасам. „Яшчэ большае значэнне, — пісаў Растаргуеў, — мае ў беларускай літаратуры... яго вершаваная паэма „Новая зямля", у якой Якуб Колас як паэт і як мастак дасягнуў недасяжнай вышыні і ў нацыянальнай форме даў нацыянальны беларускі эпас. Усё жыццё сялянскай Беларусі эпохі 90 гадоў мінулага стагоддзя ў яскравых вобразах праходзіць перад чытачом у гэтай паэме". Падзеі ў паэме толькі зрэдку выламваюцца, а па сутнасці не выламваюцца зусім з рамак духоўнай і матэрыяльнай сялянскай рэчаіснасці, і таму можам „Новую зямлю" лічыць вясковай хронікай.

Спецыфіка паэмы праяўляецца і ў тым, што па сутнасці не мае яна індывідуальнага героя. Розныя постаці штораз то выходзяць на першы план, каб іграць галоўную ролю. І таму можам сказаць, што ў паэме выступае калектыўны герой, якім з'яўляецца сялянская сям'я.

Пастаянным матывам паэмы з'яўляецца паказ сялянскага жыцця і імкненне сялянскай сям'і да ўласнай гаспадаркі. Аднак аўтар паказвае сваіх герояў не толькі ў тыповых для сялянскага жыцця абставінах, але і ў розных выпадковых, эпізодных сітуацыях, якія ўзбагачаюць нашы веды аб героях твора. Усякая выпадковасць і нечаканасць найчасцей звязаны з вобразам дзядзькі Антося. Амаль усе гумарыстычныя падзеі ў „Новай зямлі" датычаць Антося і дзяцей.

Героі паэмы — гэта несвядомыя прадстаўнікі пазітывістычных ідэй. Іх пазітывістычнасць праяўляецца ў павольнай акумуляцыі сродкаў, прадназначаных на куплю зямлі, у зразуменні значэння асветы для дзяцей, у кульце працы, у імкненні да духоўнага і матэрыяльнага ладу. Па сутнасці герояў паэмы характарызуе сямейны індывідуалізм. Лепшую будучыню яны бачаць толькі праз прызму ўласнай працы і ўласных намаганняў. Яны не здольны падпарадкаваць сваю дзейнасць і імкненні шырэйшаму калектыву. Чужы ім грамадскі альтруізм, церпяць яны так, як Сымон-Музыка, але церпяць за сябе і для сябе. Як Сымон, імкнуцца яны да шчасця, але чужыя ім усякія парывы і бунты. Сымон-Музыка марыў аб шчасці для ўсіх — Антось і Міхась мараць аб шчасці ўласнай сям'і. Істота змагання Сымона прыгожая, але крыху фікцыйная. Дзейнасць герояў „Новай зямлі", пазбаўленая альтруістычных феерверкаў, захапляе нас суровасцю праўды, сэнсам пошукаў. У адрозненні ад Сымона, на якога падарожжы дзейнічалі як цудоўная магія, для герояў „Новай зямлі" выезд з дому на некалькі дзён — гэта сапраўднае няшчасце. Сымон многа разоў выступае з дэкларацыямі аб сваіх пачуццях да роднага краю. Героі „Новай зямлі" не робяць гэтага ніколі. Аднак атмасфера іх прывязанасці да роднай зямлі выступае ў творы пастаянна. „Новая зямля" — гэта апалогія працы ў той час, як „Сымон-Музыка" з'яўляецца пахвалой парываў духа.

І ўсё ж такі, нягледзячы на ўсе прадстаўленыя розніцы, гэтыя дзве паэмы не з'яўляюцца творамі ідэйна супрацьстаўнымі і сабе чужымі. Абодва ілюструюць дзве розныя галіны нацыянальнага жыцця, якое не можа абыйсціся без рацыяналізму і ідэалізму.

**Успаміны (20)**




Год 1973. Пасля заканчэння конкурсу „Беларуская песня-73", па нашай ініцыятыве 21 красавіка адбылася сустрэча калектыву з прадстаўнікамі ГП БГКТ і мясцовых улад. Былі на ёй: старшыня ГП БГКТ М. Самоцік, старшыня павятовага аддзела БГКТ Я. Целушэцкі, кіраўнік павятовага аддзела культуры грам. Янкоўская, першы сакратар гміннага камітэта ПАРП П. Кандрусік, старшыні мясцовага ГСу Паплаўскі і Я. Матэйчук, загадчык банка В. Барада, кіраўнік ГОКу Я. Карповіч і рэферэнт па справах культуры Гарадоцкай гміны М. Матэйчук.

Сустрэча мела творчы характар. Кіраўніцтва калектыву прадставіла ўсе цяжкасці, з якімі сустракаецца ў сваёй працы. Другі бок абяцаў калектыву дапамагчы больш. Кіраўнік ГОКу меў задбаць, каб пакой, у якім адбываюцца рэпетыцыі, быў чысты, праветраны і каб у час рэпетыцый не было пабочных асоб. Усё было запратакаліравана.

Які вынік, спытаеце? Усё асталося па-старому.

Згадзіліся мы ў грамадскім чыне выступіць на Першага мая ў вёсцы Калодна. Транспарт дала трыкатажная фабрыка. Паехалі. Але актывіст, які абавязаўся падрыхтаваць залу і паведаміць насельніцтву, аднёсся да справы несур'ёзна. Прыехалі, а зала замкнута, людзі нічога не ведаюць. Разбегліся мы па вёсцы, знайшлі светліцовую, і праз нейкі час усё было ў парадку. Канцэрт адбыўся.

Жыхары Калодна — народ ветлівы і гасцінны — пачаставалі нас кавай і добрым пірагом уласнай работы.

3 чэрвеня, па запрашэнню павятовага аддзела культуры, выступілі ў Супраслі і Дарожках. Канцэрты былі прысвечаны Дням асветы, кнігі і друку, а таксама 30-й гадавіне Войска Польскага. У Супраслі выступалі на эстрадзе. Паказалі слоўна-музычны абразок на матывах паэмы Пятра Глебкі „У тыя дні". У Дарожках былі ўпершыню. І былі вельмі задаволены. Было многа публікі, прымала яна нас вельмі сардэчна. Некаторыя старыя салдацкія песні, з якіх складалася наша праграма, жыхары Дарожак спявалі разам з намі. Было невыказна прыемна. Гэтак трапіць у самую дзесятку...

8 ліпеня ў Збучы адбываўся народны фэстын, прысвечаны 50-й гадавіне стварэння Беларускай ССР. Апрача нас, быў калектыў песні і танца з Белавежы. Пасля канцэрта адбыліся „згадуй-згадуля" і „мікрафон для ўсіх". У „мікрафоне" ўзнагароду атрымліваў той, хто найлепш выканае старую або гумарыстычную песню. Я спявала „Можа знаць вам давялося пра Анупрыкаву Зосю". Здабыла I ўзнагароду, фатаграфічны апарат. Н. Цыванюк заняла II месца, Р. Дылько і І. Паўлючук (у дуэце) — III. Вяртаючыся дамоў, папляжавалі на Нарве.

І зноў выезд. На гэты раз аж у Сопат. Ад 1 жніўня адбываліся там „Фальклярыстычныя канфрантацыі". Выступалі ў ім калектывы нацыянальных меншасцяў. У беларускі калектыў, апрача нашай жаночай уваходзілі яшчэ мешаная група з Дубяжына, дзявочы квартэт з Плёсак і танцавальная група: Янка Крупа з партнёршай. Як часта ў такіх выпадках бывае, дайшло ў нас да сваркі. Я хацела, каб усе беларускія групы ўтваралі адну цэласць, дырыжор Дубяжына і Плёсак хацеў выступаць асобна. Так і было.



*Ля славутай „Буры".*

Жылі мы на прыватных кватэрах у Гданьску-Вжэшчы, а канцэрты адбываліся ў Сопаце ў Летнім тэатры.

Першага і другога жніўня выступалі ўкраінцы, мы — трэцяга і чацвертага. Было крыху часу, і мы правялі некалькі рэпетыцый. Канцэрт быў ненайгоршы. Разам з намі выступаў калектыў славацкі. Іх праграма вельмі мне спадабалася: калектыў на сцэне ўвесь час быў у руху. Украінцы ні песнямі (класіка), ні ўборамі (чорныя касцюмы) не прыпаміналі фальклорнага калектыву. У наступных днях выступалі прафесіянальныя калектывы: цыганскі і грэчаскі. Мы ўжо былі ў дарозе дамоў.

З паездкі былі мы задаволены: паглядзелі Трыгорад, пакаталіся цеплаходам па моры, наведалі ваенны карабель „Буру", а вяртаючыся дамоў — замак у Мальборку.

30 верасня выязджалі ў Залукі. На канцэрце было звыш 200 асоб. Пасля канцэрта танцы, кава, піражнае.

У лістападзе і снежні рыхтаваліся да конкурсаў „Беларуская песня — 74" і савецкай песні.

---

Горад адрэзалі. Ад мора таксама праходу не было. Яшчэ немцы, праўда, прабавалі лодкамі падасланы папаўненне, але натрапілі на замаскіраваныя танкі. Былі вымушаны здацца. Узялі ў палон восем тысяч салдат. Ішлі берагам. І так цэлае лета. Пад Рыміні змяніла нас канадская армія. Адпачынак. Потым зноў фронт. Монтэ-Гранаро.

Далей баі за Санта-Сафію, Балонію.

— Амерыканцы прабавалі браць Балонію на працягу аж шасці месяцаў і кожная атака канчалася паражэннем. І паслалі нас. Гэта ўжо быў наш апошні бой. Потым змянілі нас амерыканцы. Адаслалі ў тыл.

Паехалі зноў пад Монтэ-Касіна. Пачалі рабіць магілкі, на якіх пахавалі загінуўшых. Дакладна 1011 чалавек.

— У Італіі прабылі мы аж да жніўня 1946 года. От так, ужо проста сядзелі, без зброі. Цягнула дадому, а тут і напісаць не давалі. Рассеялі такую прапаганду, што быццам бы як даведаюцца, што мы тут, дык сем'і павывозяць. Баяліся. А апрача гэтага наша палявая пошта не прапускала. Потым ухітрыліся, высылалі праз італьянцаў. Напішам, аддамо ім і яны вышлюць. Так што дома прынамсі ведалі, што мы жывыя.

Потым вывезлі ў Англію. Там былі ўжо толькі паўгода. І ўрэшце на радзіму, да сям'і, у родныя Завыкі, што каля Суража! Вярнуўся ў красавіку 1947 года. Восем год разлукі, прайшоў цэлую Еўропу, частку Азіі, бачыў Афрыку. Дзеці ўжо былі дарослыя. Марысі дзевятнаццаць, Ніне чатырнаццаць. Што за радасць!

Узяўся за гаспадарку, а гаспадарка немалая, 9,5 гектара. Далей жылі на хутары, прывыклі ўжо. Але дачка, вышаўшы замуж, захацела ў вёску. Купілі там пляц, пабудавалі хату, потым хлявы, стадолу. Маладыя перабраліся, старыя ніяк не маглі расстацца з хутарам. Засталіся.

— Можа і далей бы так жылі, але са здароўем слабавата, нага пачала дакучаць, — гаворыць дзядуля. — У 1974 годзе перапісаў на маладых гаспадарку, і мы перабраліся ў вёску.

Зараз Мікіта Аўсейчук на рэнце. Ад 1970 года член ЗБоВіД.

— От часам сяджу, выму здымкі, пагляджу і ўсё прыпомніцца. А ўнукі, згледзеўшы гэта, пасядаюць вакол і чакаюць. Тады пачынаю расказваць.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара




# Няма дрэва без карэнняў

Вечарам, калі ўжо ўправіліся мы з жывёлай і самі падсілкаваліся печанай бульбай з кіслым малаком, Палашка ўзялася за кудзелю, прасці воўну, а я расклаў на стале „Газету Беластоцкую", якая выходзіла яшчэ да першай сусветнай вайны.

Стары, яшчэ пасажны калаўротак клекатаў, як мой разбіты трактар, і я не вельмі мог зразумець, што чытаў.

— Ты лепш пайшла б, — звярнуўся я да сваёй жонкі, — на курс танцаў, які ў нашай святліцы, чуў, арганізуе ваш гурток вясковых гаспадынь!

Баба мая ўзлавалася і кажа, што хопіць ёй ужо і тых сінякоў, якія натаптаў я на яе нагах, пакуль мы пажаніліся, а зараз яна не гультайнічае так, як я, і не сядзіць над дурнымі газетамі, а ўнукам воўну на свіцер рыхтуе, бо пісалі, што ў горы на канікулы збіраюцца, то як без цёплых свіцераў.

Так шчабятала мая мілая Палашка і, хаця злосць кіпела ў маім сэрцы, розум падказваў, што праўда на яе баку, бо сапраўды такія свіцеры, якія яна ўмее зрабіць, нават у магазінах „Пэвэксу" за долары не купіш. Толькі не мог я дараваць ёй гэты дакор, што быццам бы я гультайнічаю і дурнотаю займаюся! А я ў гэтай „Газеце Беластоцкай" знайшоў вельмі цікавы артыкул пра нас, беларусаў. 7 ліпеня паводле старога стылю 1913 года „Газета Беластоцкая" змясціла артыкул **„Мы і беларусы"**. Аўтар, які падпісаўся псеўданімам **„Кур."**, разглядае перш за ўсё суадносіны між беларусамі, палякамі і рускімі.

Гавару я сваёй жонцы, каб лепш паслухала, што разумныя людзі 66 гадоў таму назад пісалі пра нашу нацыю:

*„...тое, што беларусы маюць права на нацыянальную самастойнасць, гэтага паясняць не трэба, бо гэта факт бясспрэчны. То ж быў час, калі беларуская культура праменявала сваёй сілай вельмі далёка, асвятляючы сваімі праменнямі і суседнія народы. У час дынастыі Ягелонаў беларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай мовай для ўсяго Вялікага княства Літоўскага. На гэтай мове складзены былі такія гістарычныя, векапомныя дакументы, як „Статут Казіміра Ягелончыка", „Літоўскі статут", „Трыбунал Вялікага Літоўскага Княства" і многія іншыя вельмі важныя кніжкі і дакументы. Беларускай мовай урэшце карысталіся ў штодзённых суадносінах усе арыстакраты і цэлы княжаскі двор".*

— І што з гэтага? — здзівілася Палашка.

— Ты мяне не перабівай, лепш паслухай, што тут яшчэ напісана, — гавару ёй і чытаю:

*„...лік беларусаў даходзіць да 8 мільёнаў. Такой колькасці насельніцтва магла б беларусам пазайздросціць кожная самастойная дзяржава на Балканах..."*

Далей аўтар гэтага артыкула пералічвае колькасць беларускага насельніцтва ў розных губернях царскай імперыі. Гэтыя лікі на працягу звыш паўстагоддзя ўжо поўнасцю ўстарэлі. Дык не варта іх прыводзіць. Нават агульная колькасць беларусаў цяпер толькі ў БССР набліжаецца ўжо да 10 мільёнаў чалавек.

Аўтар гэтага артыкула, жадаючы беларусам поспехаў у іх пошуках сваёй нацыянальнай самадзейнасці, не мог яшчэ тады ведаць, што праз пяць год узнікне першая беларуская дзяржава, якая цяпер з'яўляецца адной з багацейшых саюзных рэспублік Краіны Саветаў.

— Ну і што з гэтага? — зноў умяшалася мая Палашка. — То ж мы жывем у Польшчы.

— Вядома ж, што не на месяцы! — узлаваўся я. — Але кожны народ павінен помніць сваю гісторыю, бо няма дрэва без карэнняў, а чалавека без бацькоў і дзедаў-прадзедаў.

**Максім Нурэцкі**

# Лічбы і факты

У мінулым годзе ўстановы ЗУС у нашай краіне прызналі звыш 56 800 пенсій для сялян. Скарыстала з іх каля 25 тысяч пажылых сялян, якія аддалі свае гаспадаркі дзяржаве і 32 тысячы земляробаў, якія аддалі гаспадаркі наследнікам. У сярэднім пенсіі перавышаюць 2 300 злотых у месяц.

Імпартгумар

# ПІЛЬНАСЦЬ

Вясной, як кажуць, усіх на каханне цягне. Маладых асабліва. Ну, самі разумееце, кветачкі-ягадкі ўсялякія. Адным словам, цяжка ад спакусы ўтрымацца...

Гэта акурат і прыкмеціў Архіп Калістратавіч — наш прафсаюзны актывіст. Кажа, што і раней ён прыкмячаў „шуры-муры“ Зінкі-машыністкі з электрыкам Колькам. Толькі тады яны радзей на вочы яму трапляліся. А ў апошні час гэты Колька проста з машыннага бюро не вылазіць. Калі б ні заглянуў туды Архіп Калістратавіч, заўсёды застане яго там. Аднаго разу, казаў, бачыў, як яны, нібыта, цалаваліся...

Іншы, відома, не зважаў бы на гэта. А што тут за грэх для маладых?! Хай сабе цалуюцца на здароў'е. Але наш Архіп Калістратавіч — чалавек пільны і прынцыповы. Ад яго нідзе не схаваешся.

Заўважыў неяк, як Колька раніцой закрываў за сабою дзверы ў машыннае бюро і тут жа — у прафком.

— Вось вы сядзіце тут і нічога не ведаеце, — з дакорам накінуўся ён на мяне. — Дзе толькі ваша пільнасць?.. Не па-прафсаюзнаму гэта. Мы ж нашу моладзь павінны выхоўваць... А тут у вас пад самым носам любоў круцяць... Паверце, што дабром гэта не скончыцца... Хутка па ключы ад кватэры прыбягуць...

— Хто ж менавіта?

— Дык вы і гэтага нават не ведаеце? — здзівіўся наш актывіст. — Тады зараз я вам усё пакажу...

І пацягнуў мяне з сабою.

— Во, бачыце! — пераможна паказаў Архіп Калістратавіч на сядзеўшых побач Зінку з Колькам. Майце на ўвазе, што гэта пяцьдзесят дзевяты раз з пачатку года...

— Ды мы... Ды мы ж, разумееце... — зачырванелася Зінка і са слязамі выскачыла за дзверы.

— Э-эх, Архіп Калістратавіч! — устаў з крэсла Колька. — Мы ж даўно пажаніліся. Дзіця вось-вось прычакаем. А жывём у розных інтэрнатах... Дык вось тут і сустракаемся...

З гэтым мы і разышліся.

А неяк, бачу, бяжыць Колька-электрык задаволены, радасны. Насустрач яму Архіп Калістратавіч ідзе. Заўважыў, відаць, і хацеў схавацца, каб на вочы маладажону не трапіць. Але Колька сам спыніў яго.

— Дзядзька Архіп, а чаму гэта вы да нас не заходзіце?

— Ат, няма мне на што там глядзець, — апусціў долу вочы наш актывіст.

— Як гэта няма што? А сына!.. Ды і кватэру, вядома, заадно... Не без вашай дапамогі атрымалі... Калі б не вы тады...

Збянтэжанасць у Архіпа Калістратавіча адразу кудысьці знікла, і ён паважна адказаў, паблажліва працягваючы руку:

— Няма за што. Гэта ж наш абавязак — клапаціцца пра сваіх таварышаў па працы.

**Мікола Жылінскі**

— *Падстрыжыце мяне так, як у тысяча дзевяцьсот семдзесятым восьмым годзе.*

# НІЎКА

*Чаго ў спорце не бывае!*

MADE IN ZADRYPANKA

*Для членаў Літаб'яднання.*

З „Весніка Задрыпоніі“

### ПА ВЫБАРУ

Былы алкаголік Басяцкі на сустрэчы з моладдзю Задрыпанкі сказаў: „Калі вы жадаеце ўтапіцца, то да вашых паслуг рака, возера, мора, акіян, балота. Калі жадаеце ўтапіць талент, аўтарытэт, рэпутацыю, добрыя задумы, сэнс і мэту жыцця, дастаткова значна меншая колькасць вадкасці тыпу „Экстра“ ці „Жытняя“.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

А што, калі зразумеўшы чалавека, сабака скеміць, што чалавек не разумее яго?

## МІНІВЕРШЫ

### „ПЕРАДАВАЯ“ ГАПКА

Гапка сяброўцы сваёй
выхвалялася:
— Першае месца займаю. Ага!
— Першай жа ў спіску таму
аказалася,
Толькі што прозвішча мела на „А“.

**Пятро Рабро**

### ГУЛЬТАЙ

Навук не штурмуе і кніг не
чытае,
Любіць гулянкі ды танцы,
Узровень „культуры“ яго
вызначае
Узровень гарэліцы ў шклянцы.

**Барыс Міроненка**

### НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

І мухі ён не крыўдзіў, бо яна,
(На свеце не здарэцца чаго?)
Магчыма ператворыцца ў слана,
Тады ого!

**Яраслаў Каралевіч**

— *Мо, хоць цяпер ты звернеш на мяне хоць нейкую ўвагу?..*

**Так пранік пачуццём уласнай важнасці, што нават прыбавіў у вазе.**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Яна Дарашука з Карыціск змяшчаем песню*

# MARY ANN

słowa: Paweł Lejman
muzyka: Vitezlav Hadl
śpiewa Irena Jarocka

Dosyć mam
w życiu burz
Nie chcę win
ani róż

Może być
odtąd spleen
smutek, plo-
tun i kurz

Tylko raz
żeby powrócił ten
jedyny dzień
i żagiel nasz
na Mary Ann

Mogę Ci
kwiatki rwać
z Tobą pić
ziółka grzać

zostać Twym
cudnym snem
śpiewać no-
cą i dniem

Tylko spraw
by wrócił tamten dzień
wspaniały sen
jedyny dzień
na Mary Ann

Gdy nadejdzie wieczór opuścimy stary
port
Czeka siedem świeczek i urodzinowy tort
Potem na weselu mym
W tan pójdziemy tak jak w dym
I z panami szczęścia wypijemy miód i gin

Teraz wiesz
to był ten
biały sen
w biały dzień

Tobie też
raz się śnił
Jeden raz,
ale — był!

Tylko ten
W błękitach biały len
Ten jeden sen
— to żagiel nasz
na Mary Ann

Weźmie nas daleko aż na drugi świata
brzeg
Księżycową rzeką, tam, gdzie nic nie
kończy się

Byle silny wicher wiał
Byle każdy mocno chciał
I za dobrą drogę złoty pieniądz morzu dał

Mówią mi
szkoda słów
szkoda lat
szkoda snów

Mówią, że
leży już
gdzieś na dnie
ciepłych mórz

lecz ja wiem
powróci tamten sen
mój biały dzień
jedyny dzień
na Mary Ann

Mary Ann
Mary Ann
Wraca znów
biały sen

Mary Ann
Mary Ann
Jestem tu
Wołam cię!

Płynie już
powraca tamten dzień
i żagiel nasz
na Mary Ann.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

— Ой, люданькі, здольны ж ад мяне муж пайшоў! Печы клаў, бочкі рабіў, хаты крыў, падлогу мазаў, коней каваў, карову даіў, парасяці варыў, галушкі мясіў, таўканіцу тоўк, пампушкі пёк і мяне біў.

— А за што?

— Хацеў, каб і я ўсё гэта ўмела рабіць.

### ТРАПНЫ АДКАЗ

— На якой мове чытаў і пісаў Чынгіс-хан? — задаў прафесар дадатковае пытанне студэнту Лайдакевічу.

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся студэнт.

— Абсалютна правільна! Малайчына! Я таксама не ведаю такой мовы, бо ён быў непісьменны.

### НЕШТА ПАДОБНАЕ

Настаўнік рашыў праверыць вучняў на знаходлівасць і звярнуўся да аднаго з іх:

— Хто раз апячэцца, баіцца агню. Скажы што-небудзь падобнае, Пеця.

— Каго раз памылі, баіцца вады, — адразу ж выпаліў Пеця і сеў на месца.

### ДОБРА

— Я апошні раз пытаюся: калі вы вернеце мне доўг?

— Як добра, што вы больш не будзеце задаваць мне гэтае недарэчнае пытанне!

— *Ці вы не маглі б уключыць маю гітару ў сетку?*

## КУРЪЁЗЫ

### СА СТАРЫХ ГАЗЕТ

Газетная рэклама: „Сёння і на працягу тыдня будзе выступаць з каласальным поспехам В. В. Салодкапеўцаў“.

### ЦАНА ПАЛІТО

Зімой 1907 года румынскі драматург Караджале сустрэў на вуліцы свайго знаёмага Ціта Флумушыну, толькі што выбранага дэпутатам. І калі той, не знайшоўшы іншай тэмы для размовы, пачаў выхваляць сваё раскошнае футравае паліто, Караджале спытаў яго:

— А колькі каштуе тваё паліто?

— Звыш трох тысяч, — пыхліва адказаў той.

Караджале з задавальненнем пагладзіў футра, потым паглядзеў на сваё старэнькае паліто і, кіўнуўшы галавою, мякка сказаў:

— Што ж зробіш, Ціт? Я вось не магу дазволіць сабе насіць паліто, якое каштуе больш, чым я...

### ПОМНІК ЗА ЖЫЦЦЯ

Вядомы італьянскі кампазітар Джакома Пучыні быў вялікім аптымістам. Пачуццё гумару не пакідала яго нават у найцяжэйшых сітуацыях. Аднойчы ён зламаў сабе нагу і трапіў у бальніцу. Праз некалькі дзён яго наведалі сябры. Вітаючыся, Пучыні весела сказаў:

— Я такі шчаслівы, сябры! Мне ўжо пачалі рабіць помнік!

— Не кажы дурніц, пакінь гэтыя бязглуздыя жарты! — спуджана сказаў адзін з яго сяброў.

— Я зусім не жартую, — адказаў кампазітар і паказаў нагу ў гіпсе.

## МІЖ НАМІ

**Якая б прыемная цішыня настала, калі б людзі казалі толькі тое, што добра прадумалі.**